**№ 135 (717)**

Аўторак, 27 ліпеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**



## Сёння дэмакратычная Беларусь адзначае Дзень Незалежнасці



## Віцэ-прэзідэнта ЗША заклікалі падняць праблему Беларусі на перамовах з прэм'ерам Расіі 27 ліпеня

Восем буйнейшых міжнародных праваабарончых арганізацый звярнуліся да віцэ-прэзідэнта ЗША Альберта Гора, каб выказаць занепакоенасць уціскам грамадскіх і апазіцыйных груп, а таксама незалежнай прэсы Беларусі. У звароце адзначаецца, што гэты ўціск апошнім часам вызначаўся ў "арыштах нязгодных, пагрозах журналістам і ў жорсткім абмежаванні свабоды сходаў."

Паколькі Аляксандр Лукашэнка праводзіць палітыку інтэграцыі з Расіяй, праваабарончыя арганізацыі заклікалі віцэ-прэзідэнта Гора абмеркаваць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі на перамовах з прэм'ер-міністрам Расіі Сяргеем Сцяпашыным 27 ліпеня. Праваабаронцы спадзяюцца, што кіраўніцтва Расіі пажадае выкарыстаць свой уплыў на беларускія ўлады, каб выказаць занепакоеннасць "адсутнасцю асноўных правоў і свабод" у Беларусі і паспрыяць паляпшэнню сітуацыі.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

## Затрыманыя атрымалі папярэджанні

26 ліпеня ў 14.00 у судзе Маскоўскага раёна Мінска пачнуцца слуханні адміністрацыйных спраў у дачыненні да шэрагу ўдзельнікаў "народных гулянняў", якія прайшлі ў сталіцы 21 ліпеня з нагоды завяршэння 5-гадовага тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры праваабарончага цэнтра "Вясна-96", будуць, у прыватнасці, слухацца справы групы апазіцыянераў з Барысава — Сяргея Салаша, Аляксандра Сіманенкі, Аляксандра Абрамовіча, Сяргея Калініна і Анатоля Аскярко, а таксама былога следчага пракуратуры, ветэрана вайны ў Афганістане Алега Волчака, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Паўла Знаўца і некаторых іншых грамадзян.

22 ліпеня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска прайшлі слуханні спраў яшчэ адной групы грамадзян, затрыманых за ўдзел у "народных гуляннях". Адбыліся працэсы па справах інжынера прадпрыемства міжнароднай сувязі Анатоля Грыхуціка, пенсіянера Яна Грыба, дацэнта і выкладчыка Беларускай політэхнічнай акадэміі Сяргея Качаноўскага і Наталлі Качаноўскай, іншых грамадзян. У якасці сведкаў на гэтых працэсах выступалі выключна супрацоўнікі міліцыі. Суддзя Барысёнак вынес усім удзельнікам акцыі папярэджанні.

**Наталля КУЛАГІНА.**

**Жніво-99**

## Улады Брэсцкай вобласці выдзяляюць вёсцы паліва са спецрэзерваў

Больш за 20 тысяч тон дызельнага паліва па рашэнні Брэсцкага аблвыканкама выдзелена гаспадаркам вобласці са спецрэзерву. Такім чынам улады разлічваюць хоць на некаторы час зняць напружанне, якое назіраецца зараз на палях многіх гаспадарак.

З-за недахопу фінансавых сродкаў некаторыя гаспадаркі вобласці слаба падрыхтаваліся да жніва — адсутнасць грошай не дазволіла ім падрыхтаваць да жніва неабходную колькасць камбайнаў. Напрыклад, у калгасе "Беларусь" Брэсцкага раёна аднаму камбайну трэба ўбраць збожжавыя з 230 гектараў (у лепшыя часы гэтая лічба раўнялася 100, а то і 80).

З-за дэфіцыту паліва ў некаторых гаспадарках вобласці вывозяць збожжа з палёў не на аўтамабілях, якія працуюць на бензіне, а на трактарах, паколькі з саляркай праблем менш. Магчыма, на некаторы час будзе палёгка з выдзяленнем паліва са спецрэзерва, аднак за ім гаспадаркам зноў жа прыйдзецца ехаць у Жабінку, да таго ж за паліва трэба плаціць. Паступленне паліва па таварным крэдыце чакаецца, але яго будзе вельмі мала. Калі сітуацыя на паліўным рынку будзе заставацца такой жа напружанай, "бітва за ўраджай" на Брэстчыне можа быць прайграна.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**



Актыўна ідзе ўборка ўраджаю ў Нясвіжскім раёне. На жаль, ураджайнасць складае 25 цэнтнераў з гектара. А ў былыя гады тут намалочвалі за трыццаць.

**На здымку:** *абед у полі.*

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БелТА.**

**Дэмакратыя па-беларуску**

## Пасля пяці сутак арышту з ізалятара часовага ўтрымання вызвалены актывіст "Маладога фронту" У.Антонаў — абвінавачанне яму так і не прад'яўлена

З ізалятара часовага ўтрымання ГУУС Мінгарвыканкама быў вызвалены актывіст "Маладога фронту" Уладзімір Антонаў. Як ужо паведамляў БелаПАН, яго затрымалі ў ноч з 17 на 18 ліпеня па падазрэнні ў нанясенні на мур аднаго з дамоў па праспекце Ф.Скарыны графіці з заклікам прыйсці на народныя гулянні з нагоды заканчэння 5-годдзя прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.

Паводле сцвярджэння У.Антонава, пры затрыманні супрацоўнікі міліцыі злупцавалі яго гумавымі дручкамі, а падчас допытаў у РУУС Савецкага раёна ў адносінах да яго прымяняліся недазволеныя метады следства з тым, каб дамагчыся прызнання.

Аднак 20-гадовы малады чалавек катэгарычна адмаўляў сваё дачыненне да нанясення графіці. 19 ліпеня супраць яго ўзбудзілі крымінальную справу па падазрэнні ва ўчыненні хуліганскіх дзеянняў (артыкул 201 Крымінальнага кодэкса), якую расследуе РУУС Савецкага раёна.

Аднак, пратрымаўшы У.Антонава ў ізалятары да 22 ліпеня, яго выпусцілі, так і не прад'явіўшы абвінавачання і не ўзяўшы падпіскі аб нявыездзе, а толькі абавязаўшы па першым патрабаванні з'яўляцца на допыт.

Такім чынам, з моманту затрымання У.Антонаў знаходзіўся пад вартай каля пяці сутак, хаця Крымінальна-працэсуальны кодэкс прадугледжвае да прад'яўлення абвінавачання затрыманне на трохсутачны тэрмін. Акрамя таго, адвакату Наталлі Тарасюк двойчы адмаўлялі ў спатканні са сваім падабаронным, што таксама з'яўляецца парушэннем закона.

## У працэсе па справе дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання прадпрымальніка А.Клімава аб'яўлены перапынак да 2 жніўня

У працэсе па крымінальнай справе ў дачыненні да дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, вядомага прадпрымальніка Андрэя Клімава і яшчэ васьмі работнікаў ягонай былой фірмы, якія распачаўся 22 ліпеня ў судзе Ленінскага раёна Мінска, аб'яўлены перапынак.

Такім чынам суддзя Вера Тупік задаволіла хадайніцтвы Андрэя Клімава і яшчэ аднаго падсуднага — Леаніда Валковіча — аб дадатковым вывучэнні крымінальнай справы. Працэс адкладзены да 2 жніўня.

Задаволена таксама хадайніцтва А.Клімава аб допуску ў суд у якасці грамадскага абаронцы намесніка старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта, вядомага адваката Гары Паганяйлы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## "Міжнародная амністыя" заклікала беларускія ўлады вызваліць грамадзян, арыштаваных за ўдзел у акцыях пратэсту ў Мінску 21 ліпеня

Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" выступіла з асуджэннем арыштаў і гвалту ў адносінах да ўдзельнікаў мірных акцый пратэсту, якія прайшлі 21 ліпеня ў Мінску супраць працягу тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі.

"Міжнародная амністыя" заявіла, што лічыць вязнямі сумлення ўсіх затрыманых за ўдзел у гэтых акцыях. Арганізацыя заклікала беларускія ўлады вызваліць арыштаваных, паважаць свабоду мірных сходаў і не трымаць людзей за кратамі проста за іхнія палітычныя перакананні.

## Аштрафаваны гродзенскія актывісты апазіцыі, якія прымалі ўдзел у несанкцыянаванай акцыі

Шэрагу актывістаў гродзенскай апазіцыі прысудзілі штрафы за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях, якія прайшлі у Гродне 21 ліпеня з нагоды заканчэння пяці гадоў прэзідэнцтва А.Лукашэнкі.

На 70 мільёнаў рублёў аштрафаваны рэдактар незалежнай гродзенскай газеты "Пагоня" Мікалай Маркевіч і старшыня гарадской арганізацыі Беларускага народнага фронту Сяргей Мальчык. На 50 мільёнаў рублёў пакараны апазіцыянер Мікола Воран — за тое, што карыстаўся бел-чырвона-белым сцягам. Аднак найбольшы штраф — у памеры 200 мільёнаў рублёў — прысудзілі доктару медыцынскіх навук, прафесару Алесю Астроўскаму, якога суд Ленінскага раёна Гродна палічыў арганізатарам недазволенага ўладамі мерапрыемства.

**Антон ЛАБОВІЧ, БелаПАН.**

## За першае паўгоддзе 1999 года ў Беларусі выраблена сельгаспрадукцыі на 9 працэнтаў менш, чым за першую палову 1998 года

У першай палове 1999 года працягваўся спад у сельскай гаспадарцы Беларусі. Паводле звестак з Міністэрства статыстыкі і аналізу, зніжэнне аб'ёмаў сельскагаспадарчай вытворчасці склала 9 працэнтаў да аналагічнага леташняга перыяду.

Статак буйной рагатай жывёлы ў сельгаспрадпрыемствах зменшыўся за гэты перыяд на 5 працэнтаў, пагалоўе свінняў — на 2 працэнты. Рэалізацыя жывёлы і птушкі знізілася на 3 працэнты, вытворчасць малака — на 8 працэнтаў, яек — на 6 працэнтаў. Сярэднесутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы ў параўнанні з першай паловай 1998 года зменшыліся на 17 працэнтаў, свінняў — на 10 працэнтаў, сярэдні ўдой малака ад каровы — на 7 працэнтаў.

Паводле інфармацыі за студзень-май бягучага года, у сельскай гаспадарцы Беларусі 39,1 працэнта прадпрыемстваў былі стратнымі; рэнтабельнасць у гэтай галіне складала 14,7 працэнта. Крэдыторская запазычанасць сельгаспрадпрыемстваў на 1 чэрвеня дасягнула 68,2 трыльёна рублёў, у тым ліку пратэрмінаваная — 29,8 трыльёна. Грашовыя сродкі на рахунках прадпрыемстваў галіны пакрывалі пратэрмінаваную крэдыторскую запазычанасць толькі на 9,8 працэнта.

**БелаПАН.**

## Спад у знешнім гандлі

Аб'ём знешняга гандлю Беларусі за студзень-май 1999 года склаў 4.832,8 мільёна долараў ЗША, што на 28,6 працэнта менш, чым за аналагічны леташні перыяд. Пры гэтым аб'ём экспарту знізіўся на 21,7 працэнта, да ўзроўню 2.344,3 мільёна долараў ЗША, а аб'ём імпарту паменшыўся на 34,1 працэнта, да ўзроўню 2.488,5 мільёна долараў ЗША. Сальда знешнегандлёвага абароту застаецца адмоўным (у памеры 144,2 мільёна долараў ЗША). Такія апошнія звесткі Міністэрства статыстыкі і аналізу краіны.

Асноўнымі знешнегандлёвымі партнёрамі Беларусі ў студзені-маі 1999 года былі Расія (на яе долю прыпадала 53,5 працэнта аб'ёму знешняга гандлю), Германія (8,1 працэнта), Украіна (5,5), Польшча (3,4), Латвія (2,8), Літва (2,5), Італія (1,9) і Кітай (1,5 працэнта).

**Сяргей СНЕГІН.**

Пр. Юстыны, Анісіма.
К. Наталлі, Юліі.

**ЛІПЕНЬ**

**27**

**'99 АЎТОРАК**

Усход 5.15
Захад 21.17
Даўж. дня 16.02

Поўня
28 ліпеня
Захад 5.04
Усход 21.44

## Грамадскае аб'яднанне "Прававая дапамога насельніцтву" выступіла з заявай у сувязі са збіццём супрацоўнікамі міліцыі кіраўніка гэтай арганізацыі Алега Волчака

23 ліпеня грамадскае аб'яднанне "Прававая дапамога насельніцтву" выступіла з заявай наконт збіцця супрацоўнікамі міліцыі кіраўніка сваёй арганізацыі, былога дэпутата Мінгарсавета, старшыні грамадскай камісіі па расследаванні абставін знікнення экс-міністра МУС Юрыя Захаранкі, ветэрана афганскай вайны Алега Волчака.

Інцыдэнт адбыўся 21 ліпеня, пасля завяршэння акцыі з нагоды заканчэння 5-гадовага тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Увечары ў раёне вуліцы Маскоўскай Алег Волчак і члены Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Павел Знавец і Аляксандр Абрамовіч былі затрыманы і дастаўлены для разбору ў раённае ўпраўленне ўнутраных спраў Маскоўскага раёна. Паводле слоў сведкаў, Алег Волчак быў жорстка збіты трыма супрацоўнікамі міліцыі. На просьбы выклікаць урача супрацоўнікі РУУС, у тым ліку і дзяжурны, доўга не рэагавалі і "хуткая" была выклікана толькі праз 3 гадзіны. Злупцаванага праваабаронцу даставілі ў бальніцу Хуткай дапамогі, дзе ў яго была ўстаноўлена чэрапна-мазгавая траўма і іншыя шматлікія цялесныя пашкоджанні.

Пасля гэтага Алега Волчака зноў прывезлі ў міліцыю. Яго і яшчэ трох удзельнікаў акцыі (да якіх таксама прымянілі фізічную сілу і спецсродкі) пратрымалі ў РУУС каля 18 гадзін. 22 ліпеня Алег Волчак прайшоў судова-медыцынскую экспертызу і рыхтуецца падаць заяву ў пракуратуру ў сувязі са здарэннем.

У заяве праваабарончай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" гаворыцца, што супрацоўнікі міліцыі ўчынілі дзеянні, якія можна кваліфікаваць як загадзя незаконнае затрыманне — артыкул 174 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, бяздзеянне ўлады — арт.166 КК РБ.

**БелаПАН.**

**Дыскусія**

**Якімі шляхамі ісці Беларусі ў сваё заўтра — да свабоды, незалежнасці і шчасця разам з усім цывілізаваным светам? Якую ролю ў пошуку гэтых шляхоў, — ясна акрэсленых, зразумелых і блізкіх народу — павінны адыграць дэмакратычныя партыі і рухі краіны? Як апазіцыйным сілам, што супрацьстаяць сённяшняму аўтарытарнаму рэжыму, які давёў эканоміку да крызісу, а мільёны людзей да гаротнага стану, навучыцца ўлічваць уласныя пралікі і памылкі, глыбока аналізаваць усе складанасці і супярэчнасці сучасных рэалій?**

**Гэтыя няпростыя і жыццёва важныя пытанні хвалююць не толькі палітычных дзеячаў, а і многіх нашых грамадзян. Наўрад ці тут магчымы гатовыя катэгарычныя рэцэпты — ісціна, як кажуць, нараджаецца ў спрэчках. Вось мы і вырашылі звесці ў адным газетным нумары ў завочнай дыскусіі трох вядомых аўтараў: доктара філасофскіх навук Вячаслава Оргіша, члена ЦК Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі Анатоля Сідарэвіча і старшыню Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Зянона Пазьняка (дарэчы, яго артыкул датаваны яшчэ 26 траўня б.г., але, мяркуем, не страціў сваёй актуальнасці). І хаця ўдзельнікі дыскусіі відавочна выказваюць розныя пазіцыі, ацэнкі і падыходы да закранутых праблем, іх лучыць галоўнае: любоў да Беларусі, адказнасць за яе будучыню.**

*Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук*

*Шестому съезду Белорусского народного фронта посвящается*

# Кончина и новое рождение белорусской оппозиции

*Доведись принцу Гамлету появиться на свет с умом и характером белорусского национал-демократа, вечный вопрос, мучивший его душу, звучал бы так: "Участвовать или не участвовать?" Споры и дискуссии, которые в последнее время ведет демократическая общественность Беларуси, в значительной степени сфокусированы на проблеме целесообразности участия национально-демократических сил в системном политическом процессе.*

*Многие люди спрашивают, почему оппозиционные партии не проявляют настойчивости для того, чтобы провести своих сторонников в центральные и местные представительные структуры. Для многих здравомыслящих граждан вполне очевидна опасность, которая подстерегает белорусскую оппозицию, продолжительное время пребывающую в стороне от власти. Эта опасность заключается в том, что растет разрыв между программными обещаниями оппозиции и ее конкретными возможностями. Ряд оппозиционных политиков, осознав ситуацию, стремятся придать оппозиционному движению новую форму, приблизить его к реальности. На наших глазах кончается этап "шапкозакидательства" в оппозиционной практике. Все отчетливее вырисовывается идея новой оппозиции, которая не только последовательно критикует пороки официального политического курса и добивается его пересмотра, но и ищет пути для того, чтобы изнутри изменить саму систему белорусской власти.*

*Не будет преувеличением сказать: мы стоим на пороге обновления стратегии и тактики борьбы национально-демократических сил за либеральное политическое устройство белорусского общества. В этом отношении открывающийся 31 июля шестой съезд Белорусского народного фронта, в рядах которого новое понимание задач оппозиции имеет немалое число сторонников, обещает стать знаменательным событием.*

### На пороге перемен

Необходимость активного поиска более гибких приемов политической борьбы оппозиционные круги уяснили еще минувшей зимой, когда в обществе заговорили об альтернативных выборах президента Беларуси. В ходе их подготовки и проведения среди демократически настроенных политиков окрепло понимание того, что оппозиционная система, не находящая хотя бы малой степени консенсуса с общей политической системой, обречена на неудачи.

Что же произошло на выборах в мае? По версии председателя ЦИК В.Гончара, вопреки козням и откровенному силовому противодействию со стороны режима, в голосовании приняло участие свыше 53 процентов избирателей. В заочном споре политического изгнанника Позняка и политического узника Чигиря победителем был объявлен лидер Белорусского народного фронта.

В действительности из широко разрекламированной политической акции вышел пшик. Гора произвела мышь. Внесистемный характер выборной кампании обусловил на редкость небрежное отношение к ее регламентным рамкам со стороны устроителей. Организаторы акции сочли допустимым воспользоваться средствами из арсенала своих политических противников. Тем самым они предопределили ее моральную и юридическую ценность. Но, как говорится, не бывает худа без добра. Отсутствие результата, соизмеримого с масштабом заявленного политического события (шутка сказать, выборы главы государства), помогло прояснить не совсем приятную истину. В качестве политической альтернативы авторитарной власти белорусская оппозиция пока слабовата. Ее организационный потенциал и политические приемы не выдерживают жесткого противостояния с режимом.

Шумный и романтический период политической борьбы, изрядно приправленной революционным максимализмом, кончился. За время, прошедшее после обретения государственной независимости в 1991 году, белорусское общество основательно разочаровалось в политических технологиях "бури и натиска". Общественное сознание, вопреки мнению ортодоксальных политиков, склоняется к тому, чтобы выбросить слова из песни. Зреет понимание того, что революционная максима "Отречемся от старого мира, отрясем его прах с наших ног" — это лишь эффектная поэтическая метафора. Как руководство в реальной политической жизни она малопродуктивна. Слишком многое в нашем настоящем своими корнями уходит в прошлое. Эти корни кавалерийским наскоком не разрубишь, требуется методичная, профессионально выверенная политическая работа. Белорусское общество подошло к сложному и противоречивому этапу ее развертывания.

Наступает время новой оппозиции, которая будет целенаправленно и неуклонно отвоевывать свое место в официальной политике. Уже формируются иные идеологические и психологические инструменты ее политического действия. В политических кругах кристаллизуется понимание того, что политическая борьба не может строиться на неприятии одного какого-то политического персонажа, обладающего плохой репутацией и повышенной склонностью к самодурству. Руководствуясь чувством реальности, а не идеалистическими побуждениями, новая генерация оппозиционных политиков в недалеком времени обнаружит умение извлекать наибольшую пользу из сложившихся политических условий. Отказавшись витать в облаках, понимая правовую ограниченность пространства политического маневра, эта оппозиция не станет зацикливаться на требовании возврата к Конституции 1994 года и усадит Верховный Совет 13-го созыва на скамью запасных. Она решительно откажется ждать момента, когда власть научится уму-разуму, и без промедления приобщится к официальным политическим делам. Стремясь поставить политическую ситуацию под свой контроль, политики второй волны постараются провести во власть своих людей. При этом идеалы и ценности построения независимого белорусского государства и создания рыночной экономики получат вполне конкретную поддержку и продвижение.

Однако черты новой оппозиции еще только вырисовываются. Ее политическая философия формируется как критика и творческое развитие опыта предшествующего оппозиционного движения. От того, что в этом опыте будет осознано как вчерашний день, а что получит дальнейший рост, зависят конкретные успехи в демократизации белорусского общества.

Следовательно, оппозиционная практика, как она сложилась на сегодняшний день, ее стратегическая и тактическая оснастка должны стать предметом пристального критического рассмотрения. Белорусской оппозиции предстоит разобраться в себе самой, произвести, так сказать, переоценку ценностей. Не узнав и не сказав о себе правду, не осуществив придирчивый анализ собственных стереотипов политического поведения, не преодолев инерционность однажды приобретенных психологических привычек к конфронтационному стилю борьбы, ей вряд ли удастся сохранить, а тем более усилить демократическую компоненту в развитии белорусского общества в XXI веке. Образно говоря, для того, чтобы избавиться от недуга, белорусской оппозиции надо принимать горькую микстуру, составленную из нелицеприятных оценок ее собственного опыта.

### Бремя ответственности

Боязнь политической ответственности для оппозиционного духа — токсин, от которого он не умирает, но вырождается в маргинальное сектантское сознание. В публичных характеристиках белорусской оппозиции до сих пор не прозвучал один из самых принципиальных упреков, который она заслужила. Ее нежелание делить ответственность за развитие политических событий в стране было и остается серьезным препятствием для активного влияния национально-демократических сил на официальный политический курс Беларуси.

Псевдореферендум 1996 года и связанные с ним события привели к остановке демократического процесса и завершению формирования в стране государственных атрибутов авторитарной власти. Оппозиция была в то время неотъемлемой и весьма влиятельной частью политического процесса. Она справедливо осудила совершенный переворот. И тут же поспешила отмежеваться от причастности к появлению новой политической конструкции. Всю ответственность за случившееся она возложила на исполнительную власть и тех, кто эту власть поддержал. Как будто ее (оппозиции) не было в то время в стране, она не делала никаких ошибок и политические события кроились исключительно по лекалам Лукашенко и его подельников.

Чем это обернулось — хорошо известно. Умывая руки, противники Лукашенко фактически согласились с его притязаниями на неограниченное доверие со стороны электората. Оппозиция принялась пенять на народ за то, что он проявил "безответственность", "молчаливо поддержав" лукашенковский замысел конституционного переворота.

Только где это записано, что народу положено быть ответственным? Народ не может быть и не является коллективным носителем ответственности, нет такого правила (иначе в Нюрнберге в 1945 году пришлось бы судить не только кучку фашистских главарей, а всю немецкую нацию). Надо сказать больше. Народ, не знающий гражданского общества, не знает и не любит ответственности. Он охотно отдает это бремя вместе с неограниченным правом распоряжаться политическим курсом государства тем политикам, чья воля к власти наиболее активна и не испытывает сомнений. Разве не так было в Германии в 1933 году? Разве не подобное произошло в Беларуси в 1996 году? Народ, не успевший выработать или утративший демократическую основу политической культуры, мало жалует тех, кто требует от него думать о последствиях выбора. Он соглашается, чтобы за него думали другие.

Народная душа, приученная зависеть от тоталитарных вождей, прежде всего нуждается в уверенности. Поэтому она выбирает в поводыри тех, кто не боится взять на себя всю полноту политического риска. Белорусские национал-демократы по данному показателю пока определенно уступают своему противнику. В этом кроется одна из причин того, что белорусская оппозиция слабо реализует свои планы и не пользуется достаточной поддержкой у населения.

Характерным примером, подтверждающим этот тезис, может служить факт, который приводит один из активистов БНФ В. Ивашкевич. После августовского путча Кебич подал в отставку. Власть оказалась "лежащей на земле". Однако лидеры Фронта Позняк и Борщевский уговорили Вячеслава Францевича остаться на посту председателя СМ. В качестве условия они выставили требование поддержать независимость Беларуси и ввести запрет на деятельность компартии. Таким образом оппозиция в лице БНФ уклонилась от ответственности. Вместо того чтобы взять власть в свои руки и соответственно принять на себя бремя политического риска, она предпочла спрятаться за спиной номенклатуры, наивно полагая, что сумеет, находясь в тени, корректировать действия старого аппарата по руководству независимым государством (бюллетень "Адкрытае грамадства", 1998, №2).

Очень скоро коммуно-советский чиновничий корпус опомнился и взял политический процесс в стране под свой твердый контроль. Случившееся в конце 1996 года было в каком-то смысле логическим завершением вышеописанного политического проекта оппозиционных мудрецов. Отпущенная на свободу, коммуно-советская номенклатура во главе с Лукашенко окрепла и обнаглела настолько, что не побоялась, цинично поправ конституционные нормы, пойти на полную ликвидацию "теневой" миссии оппозиции, которую та в свое время сама себе назначила.

Проиграв схватку с исполнительной властью, белорусская национал-демократия надела маску оскорбленной девицы, которую не приглашают на вальс, и поспешила удалиться с политической площадки. "Больше в эти игры я не играю", — обиженно объявила она. Но ведь до этого же играла. И еще как играла.

Конечно, сойти с беговой дистанции, чтобы, сидя в сторонке, критически отслеживать бег соперника, можно. Но выйти победителем, отказавшись участвовать в забеге, невозможно. В 1993 году Ельцин расстрелял Белый дом и сменил российскую Конституцию. Где была бы теперь российская красная оппозиция, не продолжи она политический марафон? Не отказавшись от борьбы на поле системной политики, коммунисты сегодня вновь претендуют на власть в России.


*(Окончание на 2-й стр .)*


**27 ліпеня 1999 года, аўторак, плошча Якуба Коласа ў Мінску, 18.00**

**Дэманстрацыя і мітынг пратэсту ў Дзень Незалежнасці супраць узурпацыі ўлады А.Лукашэнкам і яго спроб ліквідаваць незалежнасць БЕЛАРУСІ.**

*Абаронім свабоду і незалежнасць Нашай Бацькаўшчыны!*

**Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл БЕЛАРУСІ.**

